// САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 2 | 10 кастрычніка 1928 г. | № 2

## ЗЬМЕСТ.



# ДА ПЕРАВЫБАРАЎ САВЕТАЎ БССР.

**А. ЧАРВЯКОЎ.**

## Важнейшыя задачы кампаніі 1928 году па перавыбарах саветаў Беларусі.

Савецкая Беларусь у сучасны момант рыхтуецца к далейшаму разгортваньню цэлага шэрагу новых мерапрыёмстваў плянавага сацыялістычнага будаўніцтва: далейшае разгортваньне прамысловасьці, плян вялікіх мэліярацыйных работ на торфавых балотах з мэтай прыстасаваньня іх пад пахань, перабудова сельскае гаспадаркі з усё большым узмацненьнем калектыўных яе элемэнтаў, разьвіцьцё і ўзмацненьне каапэрацыі ў барацьбе за культурнасьць насяленьня,—вось галоўныя задачы, якія пастаўлены ў чаргу дня Савецкай Беларусі.

Выкананьне гэтых задач патрабуе агромністых напружаньняў сіл і сродкаў савецкае дзяржавы, сустракае на сваім шляху цэлы шэраг новых цяжкасьцяй, бо варожыя саветам сілы імкнуцца выкарыстаць нявыжытыя яшчэ цяжкасьці ў задаваленьні хлебам, новую сыстэму сельска-гаспадарчага падатку і іншыя мерапрыёмствы савецкага ўраду, у якіх праводзіцца выразная клясавая лінія, для барацьбы супроць саветаў і сацыялістычнага будаўніцтва.

Каб перамагчы ўсе цяжкасьці і пасьпяхова выращыць усе задачы, якія перад намі стаяць, неабходна яшчэ большае згуртаваньне ў саветах рабочае клясы і бяднейшага сялянства з серадняком, неабходна дамагчыся пастаяннага і актыўнага ўдзелу іх праз саветы, як органы дыктатуры пралетарыяту ў выращэньні ўсіх задач сацыялістычнага будаўніцтва і барацьбе супроць нэпмана і кулака. У сучасных умовах надыходзячая кампанія па перавыбарах саветаў мае асабліва важнае значэньне: яна з прычыны свайго масавага характару ва ўмовах разгорнутай пралетарскай дэмакратыі павінна стаць лепшым спосабам згуртаваньня рабоча-сялянскіх мас вакол саветаў і рашучага адпору імкненьням кулацкіх і нэпманскіх элемэнтаў, заваяваць сабе ўплыў на саветы.

Перавыбарная кампанія павінна быць намі выкарыстана, каб разьясьніць самым шырокім колам працоўных агульныя ўмовы нашай барацьбы і будаўніцтва, задачы і бліжэйшыя мерапрыёмствы, ук ажыцьцяўленьне плянавага сацыялістычнага будаўніцтва, разьясьніць дасягненьні і цяжкасьці як пераўжытыя, так і тыя, што яшчэ стаяць уперадзе, зьвязаць агульныя задачы будаўніцтва са штодзённымі патрэбамі рабочага, батрака, селяніна бедняка і серадняка і ўсіх працоўных. Трэба, каб нават самыя адсталыя групы працоўных гораду і вёскі ў выніку нашага разьясьненьня ўсьвядомілі сваю сувязь з уладаю саветаў і адчулі, што ўлада саветаў і сацыялізм—адзіны шлях да зьнішчэньня беднасьці, някультурнасьці і клясавай няроўнасьці. Трэба, каб перавыбарная кампанія стала масавым удзелам рабочых, бяднейшага і сярэдняга сялянства ў справе арганізацыі сацыялістычнага будаўніцтва.

**ГЭТА ПАВІНЕН БЫЦЬ УДЗЕЛ ГАСПАДАРА Ў СВАЁЙ СПРАВЕ, У СВАІМ ДОМЕ.**

Выходзячы з такога значэньня перавыбарнае кампаніі, бюро ЦК КП(б)Б лічыць яе «аднэй з галоўнейшых палітычных кампаній», у падрыхтоўцы і правядзеньні якой павінна прыняць удзел уся КП(б)Б і пад яе непасрэдным кіраўніцтвам

усе савецкія, прафэсыянальныя, камсамольскія арганізацыі, а таксама шырокі рабоча-сялянскі актыў, шырокія рабоча-сялянскія масы, пры асабліва шырокім актыўным удзеле батрацтва і вясковай бедна-ты. Гэтыя дырэктывы паложаны ў аснову ўсяе падгатаўляемае цяпер перавыбарнае кампаніі.

У аснову ўсяе падгатаўляемай цяпер у Беларусі перавыбарнай кампаніі паложаны тыя агульныя для ўсіх саюзных рэспублік дырэктывы, якія даны XV зьездам УсеКП(б) і ЦВК Саюзу, якія цалкам падходзяць і да Беларусі. Апрача таго, пры правядзеньні гэтай кампаніі павінен быць падлічан вопыт мінулай перавыбарнай кампаніі Беларусі і зьвернута асаблівая ўвага на зьнішчэньне недахопаў мінулай кампаніі.

Спынімся на тых пытаньнях перавыбарнай кампаніі, якія патрабуюць асаблівае ўвагі і якія былі невыстарчальна падлічаны ў мінулай кампаніі.

Важнейшым пытаньнем усяе выбарчае кампаніі зьяўляецца забясьпечаньне пастаяннай і актыўнай кіруючай ролі за камуністычнай партыяй. Выпадкі замазваньня кіруючай ролі кампартыі, спробы пад рознымі соўсамі, замоскаваць прапановы кампартыі, што наглядалася ў мінулым, павінны быць строга асуджаны. Барацьба за ўладу саветаў і ўся гісторыя мірнага сацыялістычнага будаўніцтва з усёю яснасьцю паказалі, што кампартыя зьяўляецца праваднырам працоўных у барацьбе за сацыялізм, і што пасьпяховасьць далейшай барацьбы залежыць перш за ўсё ад таго, у якой меры будзе захавана кіруючае значэньне кампартыі. Гісторыя Савецкай Беларусі ёсьць гісторыя барацьбы рабочых і сялян Беларусі пад кіраўніцтвам кампартыі. Такое разуменьне ролі кампартыі павінна яшчэ больш замацавацца ў час перавыбарчай кампаніі. Асаблівае значэньне мае гэта пытаньне для камсамольскай арганізацыі. У мінулым быў шэраг выпадкаў, калі асобныя камсамольцы ня толькі імкнуліся змазаць ролю партыі ў саветах, але самі на агульных сходах выступалі і галасавалі супроць прапаноў і кандыдатур, высоўваемых партыяй. Вытрыманасьць, дысцыплінаванасьць, палітычная сьвядомасьць праваяраюцца лепш усяго ў час палітычных кампаній. Вось такой праверкай для кожнага партыйца і камсамольца будзе кампанія па перавыбарах саветаў: 100 проц. партыйцаў і камсамольцаў павінна ўдзельнічаць на перавыбарах, партыя павінна ў час перавыбараў замацаваць сваю кіруючую ролю, павінна даць лепшых сваіх членаў у саветы.

Вялізарнае значэньне ва ўмовах абвастрыўшайся клясавай барацьбы набывае работа сярод бедна-ты і ўцягненьне беднаты ў перавыбары.

У мінулую перавыбарчую кампанію, там, дзе ўдалося склікаць прадвыбарчыя сходы беднаты, кулакі палучалі арганізаваны адпор. Але, нажаль, такімі сходамі былі абслужаны толькі каля 50 проц. выбарчых вучасткаў. Таму ў астатніх пунктах перавыбары праходзілі з большымі цяжкасьцямі, так як кулакам удавалася заблытваць галовы беднякам і серадняхам. Вопыт работы сярод беднаты, які ў Беларусі даў вельмі добрыя палітычныя вынікі, павінен быць улічаны і на ўсіх выбарчых вучастках павінны адбыцца прадвыбарчыя сходы беднаты. Пры гэтым павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на абслугоўваньне і ўцягненьне батрацтва, у дачыненьні да якога неабходна правесьці асобную работу і, у прыватнасьці, позвы на сходы павінны аддавацца асабіста батракам, бо ўтоеньне позваў «гаспадарамі» мела масавы характар.

Трэба загадзя прадумаць шэраг мер, каб забясьпечыць максымальны ўдзел выбаршчыкаў на выбарчых сходах. Калі гэта пытаньне ў гарадох можна лічыць у больш-менш здавальняючым становішчы, то ў вёсках справа абстаіць далёка ня так добра: на мінулых выбарах у вёсках удзельнічала менш 50 проц. выбаршчыкаў, пры чым жанчыны складалі толькі 28,8 проц. усіх зьявіўшыхся на выбары, тады, як жанчыны складаюць 50,5 проц. у стасунку да ўсіх маючых права выбараў. Павінна быць пастаўлена задача 100 проц. яўкі на выбары рабочых і максымальнага ўцягненьня ў перавыбары бядняцка-серадняцкіх слаёў. Асобна трэба паставіць пытаньне аб уцягненьні жанчын, як у перавыбарчую кампанію, так і ва ўсё савецкае будаўніцтва. Нам, нажаль, яшчэ не ўдалося дабіцца рашучага пералому ў гэтым пытаньні і забясьпечыць жанчыне раўнапраўнага на справе ўдзелу ў саветах. Месцы ў большасьці абмяжоўваюцца выпаўненьнем нормы, устаноўленай зьверху. Патрэбен рашучы псыхалёгічны перелом у адносінах да жанчыны, трэба зрабіць яе роўнай, таварышам па барацьбе і будаўніцтву, трэба выводзіць яе з становішча апякаемае істоты ніжэйшага парадку. Больш рашуча і сьмела трэба адчыніць дарогу жанчыне на сходы, у саветы і ў працэсе работы пазбывацца самім старых прыгонных адносін да жанчыны.

Вельмі важнай работай у перавыбарчай кампаніі зьяўляецца складаньне сьпісаў пазбаўленых выбарчых правоў. У час мінулых перавыбараў мы мелі наступны процант пазбаўленых: у сельскіх мясцовасьцях—1,4 проц., у мястэчках—14 проц., у неакруговых гарадох—12,8 проц., і акруговых —8,8 проц. Нэпманы, кулакі і «былыя людзі», якія пападаюць у сьпісы пазбаўленых, вельмі варожа адносяцца да гэтага і імкнуцца выкарыстаць усе спосабы, каб даказаць, што Савецкая ўлада павінна быць для ўсіх роўнаю. Такім чынам, работа па складаньню сьпісаў будзе знаходзіцца пад пастаянным ціскам і патрабуе асаблівай дасканаласьці, каб ня даць магчымасьці прасякнуць у саветы варожым элемэнтам. З другога боку, патрэбна асаблівая асьцярога, каб ня ўпісаць у гэтыя сьпісы стараннага серадняка, працаўніка, што таксама мела месца, і што выклікае справядлівыя нараканьні.

Некалькі слоў трэба сказаць аб нашых нацыянальных саветах. Каб магчыма шырэй абхапіць працоўных нацыянальных меншасьцяй, мы сталі на шлях арганізацыі нацсаветаў, дапускаючы арганізацыю апошніх нават да 500 душ насельніцтва ў той час, як агульныя саветы арганізуюцца ў раёнах насельніцтва ад 2000 да 5000.

За мінулы час, дзякуючы гэтым саветам, мы маем значныя посьпехі па абслугоўваньні нацыянальных меншасьцяй Беларусі. Аднак, трэба адзначыць, што ў нацыянальных саветах да гэтай пары клясавае разьмежаваньне ідзе даволі слаба і часта больш заможныя, а нават кулацкія элемэнты задаюць тон у гэтых саветах. Выбарчая кампанія павінна быць выкарыстана, каб арганізаваць батракоў, беднату ў гэтых саветах, замацаваць сувязь з серадлякамі, вырваўшы іх з-пад уплыву ксяндзоў, рабінаў і ку-

лакоў. Трэба даць у нацсаветы добрых працаўнікоў, трэба зьнішчыць самым рашучым чынам такія зьявішчы, калі старшыня польскага або яўрэйскага савету ня ўмее гаварыць папольску ці паяўрэйску, але ў той-жа час трэба дабіцца таго, каб нацсавет абараняў не агульна-нацыянальныя, а клясавыя інтарэсы батракоў, беднаты і інш., выходзячы з асаблівасьцяй культурных, бытавых і эканамічных даных нацменшасьці.

Уся выбарчая кампанія патрабуе ад нашых партыйных арганізацый і ўсяго савецкага апарату большай актыўнасьці і напружнай увагі. Асабліва дасканалая работа павінна быць праведзена ў вёсцы, для чаго неабходна мабілізаваць для працы ў вёсцы на доўгі тэрмін лепшыя сілы партыі і саветаў.

Такім чынам нам удасца выпаўніць задачу, высунутую КП(б) у сувязі з перавыбарамі: „перавыбарчая кампанія павінна, як мага больш, шырэй выявіць станоўчае і адмоўнае ў рабоце саветаў, павінна магчыма шырэйшыя колы працоўных прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ў барацьбе за далейшае палепшаньне работы савецкіх органаў, за далейшае сацыялістычнае будаўніцтва, за далейшае павялічэньне ролі камуністычнай партыі ва ўсім жыцьці краіны".

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

А. Хацкевіч.

# Арганізацыя справаздачнай і перавыбарчай кампаніі саветаў Беларусі.

Па пастанове Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, мы павінны правесьці кампанію па перавыбарах саветаў з 1-га студзеня па 1-е красавіка 1929 году. Прычым справаздачнасьць саветаў мы павінны ажыцьцёвіць у сьнежані месяцы гэтага году. Перавыбарная кампанія зьяўляецца для ўсіх саветаў і выканаўчых камітэтаў палітычным экзамінам, а для выбаршчыкаў—школай палітычнага выхаваньня.

**Перавыбары саветаў — ёсьць важнейшая палітычная кампанія і таму для яе правядзеньня неабходна мабілізаваць увагу ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый—усяе савецкай грамадзкасьці.** У мэтах забесьпячэньня поўнага ўдзелу ў выбарчай кампаніі ўсяе савецкае грамадзкасьці, усіх выбаршчыкаў, неабходна зараз вызначыць і ажыцьцёвіць шэраг арганізацыйных мерапрыемстваў.

Дзеля намячэньня правільнай арганізацыйнай лініі і паасобных арганізацыйных мерапрыемстваў у надыходзячую перавыбарчую кампанію **неабходна ўлічыць памылкі і арганізацыйныя недахопы, якія мы мелі ў мінулагодняй кампаніі.** Галоўныя з іх наступныя: параўнальна невялікі процант удзелу выбаршчыкаў, паніжэньне проценту выбраных у саветы жанчын, недастатковы ўдзел у кампаніі прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый вёскі, правядзеньне паралельных кампаній, непадрыхтаванасьць памяшканьняў, дапушчэньне ня ў меру буйных выбарчых вучасткаў, невыстарчальны вучот выбаршчыкаў, спазьненьне раздачы і зусім няўручэньня позваў паасобным выбаршчыкам і цэлым вёскам, недастатковасьць у цэлым шэрагу месц справаздачнасьці саветаў і дэпутатаў перад сваімі выбаршчыкамі, асабліва рэвізійных камісій і г. д.

Таму, ставячы перад сабой задачу сто-процантнага ўцягненьня ў надыходзячую выбарчую кампанію савецкай грамадзкасьці і ўсіх выбаршчыкаў, партыйныя і савецкія органы на мясцох павінны зараз зрабіць захады да ажыцьцяўленьня гэтае задачы, шляхам замацаваньня дасягненьняў, зьнішчэньня памылак і недахопаў мінулай перавыбарчай кампаніі. **Трэба па ўсёй БССР безадкладна арганізаваць пры саветах і выканаўчых камітэтах выбарчыя камісіі, забясьпечыўшы іх склад аўтарытэтнымі і працаздольнымі работнікамі, распрацаваць пляны справаздачна-выбарчай кампаніі,** устанавіўшы точныя тэрміны ўсяе працы; распачаць складаньне сьпісаў асоб, падлягаючых пазбаўленьню выбарчых правоў; прыняць неабходныя арганізацыйныя меры для забесьпячэньня сто-процантнай яўкі і поўнага вучоту выбараў ў саветы.

Пры складаньні сьпісаў асоб, падлягаючых пазбаўленьню выбарчых правоў, строга кіравацца інструкцыяй аб выбарах у саветы, не дапускаючы ніякіх ад яе адступленьняў. Асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў, вразумела, ня могуць прымаць ніякага ўдзелу ў выбарчай кампаніі; яны ня могуць высоўваць кандыдатур, абгаварваць і галасаваць за іх; яны ня могуць і не павінны прысутнічаць на выбарчых сходах. **Неабходна поўнае ізаляваньне ад выбараў і вырашэньня пытаньняў зьвязаных з перавыбарамі саветаў гандляра, кулака, папоў розных культаў, быўшых паліцэйскіх розных рангаў і ўсіх іншых асоб, якія пазбаўляюцца выбарчых правоў інструкцыяй на падставе Канстытуцыі.** Надаючы вялікае значэньне складаньню сьпісаў «лішэнцаў» неабходна прыцягнуць да гэтае справы ўсю савецкую грамадзкасьць для таго, каб недапусьціць памылак у гэтай важнай справе.

Адным з найважнейшых момантаў у перавыбарчай кампаніі зьяўляецца арганізацыя і правядзеньне справаздачнасьці саветаў і дэпутатаў перад выбаршчыкамі. Выходзячы з агульных задач і вопыту мінулай кампаніі, **трэба дабіцца правільнай арганізацыі і поўнай справаздачнасьці саветаў у надыходзячую кампанію.** На справаздачных сходах гораду і вёскі, акрамя справаздач саветаў аб іх дзейнасьці павінны быць пастаўлены і высьветлены важнейшыя пытаньні палітычнага, культурнага і гаспадарчага будаўніцтва краіны. **Справаздачы нізавых саветаў павінны ахапляць усе моманты іх масавай і практычнай працы. Асаблівую ўвагу павінны зьвярнуць саветы і іх дэпутаты на высьвятленьне выкананьня наказаў саміх выбаршчыкаў.** Пры шырокай справаздачнасьці вышэйстаячых органаў, забясьпечыць галоўнае месца для справаздачы савету з тым, каб ні ў якім разе дакладамі іншых органаў не затушоўвалася работа нізавых саветаў перад насельніцтвам. У сваіх справаздачах саветы павінны далажыць сваім выбаршчыкам аб іх масавай—калек-

Пры арганізацыі справаздачна-выбарчай кампаніі на мясцох партыйным і савецкім органам **неабходна зьвярнуць належную ўвагу на ўцягненьне шырокіх мас працоўных нацменшасьцяй у выбарчую кампанію**, якая павінна яшчэ больш замацаваць шэрагі працоўных усіх нацыянальнасьцяй. У гэтым сэнсе неабходна зараз-жа арганізаваць асобныя нацыянальныя выбарчыя вучасткі ў мясцох з большасьцю насельніцтва нацыянальных меншасьцяй. Гэтыя вучасткі пры справаздачах і выбарах павінны абслугоўвацца на роднай мове адпаведнай нацыянальнасьці. **Трэба прыняць належныя меры, каб наказы, лістоўкі, плякаты былі надрукаваны на розных мовах нацменшасьцяй Савецкай Беларусі.**

Такія пытаньні, як арганізацыя справаздачна-выбарчых вучасткаў, падрыхтоўка і разьмеркаваньне позваў, складаньне сьпісаў і вучот выбаршчыкаў таксама павінны быць сваечасова падрыхтаваны і вырашаны. Намячаньне сеткі выбарчых вучасткаў, з максымальным скарачэньнем адлегласьці, падрыхтоўка адпаведных памяшканьняў для сходаў—ёсьць важная арганізацыйная задача. Трэба сваечасова ўсёпрадугледзіць для таго, каб арганізацыя гэтае кампаніі максымальна забясьпечыла яе посьпехі. Паказаньні месц, (як гэта раней было), на тое, што недастатковы процант яўкі тлумачыцца: адсутнічаньнем памяшканьня, вялікай адлегласьцю, няпоўным і несваечасным уручэньнем позваў, склікаваньнем сходу вечарам, а на днём, у сьвята, у базарны дзень і г. д.—будуць сьведчыць толькі аб дрэннай арганізацыйнай падрыхтоўчай працы савету і выканкаму.

Перад выбарамі ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі **неабходна арганізаваць масавае абсьледваньне дзейнасьці саветаў як праз савецкую грамадзкасьць, так і праз выезды спэцыяльных камісій ЦВК, АВК і РВК.** Высьвятліць праверкай станоўчыя і адмоўныя бакі працы нізавых саветаў дзеля таго, каб палепшыць зьмест і практыку працы будучых новых перавыбраных саветаў.

Мы маем зараз вялізарны актыў з рабочых і работніц, сялян і сялянак. Гэты актыў прымае ўдзел у савецкай і грамадзкай працы, удзельнічае ў вырашэньні задач сацыялістычнага будаўніцтва. Дзеля таго, каб даць яшчэ большую магчымасьць савецкаму актыву і большаму колу працоўных непасрэдна ўдзельнічаць у працы саветаў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР сваёй пастановай ад 1-га кастрычніка **павялічыў у два разы норму выбараў у саветы да аднаго дэпутата на 100 душ насельніцтва.** Гэта пастанова мае вялікае палітычнае і практычнае значэньне ў сэнсе ўцягненьня шырокіх працоўных мас у работу саветаў, у сэнсе палепшаньня масавай работы саветаў.

Уся арганізацыйная праца па правядзеньню перавыбараў саветаў, якую зараз павінны разгарнуць ва ўсю шырыню нашы саветы, выканкомы і іх выбарчыя камісіі, павінна праходзіць пад непасрэдным, штодзённым кіраўніцтвам партыі і партыйных органаў на мясцох. Асабліва нам **трэба падняць на належную вышыню кіраўнічую ролю парт'ячэек на мясцох**, не дапускаючы ні ў якім выпадку хвасьцізму ў гэтай важнейшай палітычнай кампаніі.

Правільна і сваечасова арганізаваная кампанія перавыбараў саветаў, пры бязупынным кіраўніцтве парторганаў на мясцох павінна поўнасьцю забясьпечыць вырашэньне наступных задач: **павышэньне актыўнасьці ўсіх працоўных; узмацненьне кіруючай ролі ў саветах пралетарыяту; разгортваньня крытыкі і савецкай дэмакратыі; яшчэ большага замацаваньня бядняцка-серадняцкага саюзу; большага ўцягненьня ў саветы рабочых, батрацтва, і беднаты; поўнай ізаляцыі кулакоў і антысавецкіх элемэнтаў; далейшага ажыўленьня саветаў, канцэнтрацыі ўвагі працоўных на задачах абароны краіны, яе індустрыялізацыі і рашучай барацьбы з бюракратызмам за палепшаньне нашага дзяржаўнага апарату.**

М. Ляўкоў.

# Перавыбары саветаў і задачы па арганізацыі беднаты і батрацтва.

Надзвычайна вялікае палітычнае значэньне перавыбарчай кампаніі саветаў у тым, што пры яе правядзеньні мабілізуецца ўвага шырокіх мас навакол пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва, актывізуюцца масы, займаюцца праверкай усёй работы сваіх выбарчых органаў, ацэньваюць гэту работу з пункту гледжаньня дасягненьняў і недахопаў, крытыкуюць адмоўныя бакі працы, выяўляюць прычыны гэтых недахопаў, даюць свае прапановы.

Словам—у час перавыбараў саветаў, побач з разгортваньнем шырокай савецкай дэмакратыі, значна ўзрастае і актыўнасьць мас. Адсюль дваякая важная задача партыйных арганізацый (акругкомаў, райкомаў, ячэек)—**умець арганізаваць актыўнасьць мас у час перавыбараў, умець пасьля перавыбараў захаваць гэту актыўнасьць на высокім узроўні і накіроўваць яе на справу сацыялістычнага будаўніцтва.**

Роля беднаты і батрацтва ў гэтай справе надзвычайна вялікая і важная. Бедната і батрацтва, як апора партыі на вёсцы, як непасрэдны будаўнік савецкага ладу і сацыялістычнай гаспадаркі, павінны быць начале ў час перавыбараў саветаў і пры правядзеньні ўсіх мерапрыёмстваў на вёсцы.

Перавыбары саветаў будуць праходзіць (гэта трэба ведаць) пры абвастрыўшайся клясавай барацьбе ў вёсцы. Кулак, пры дапамозе былых людзей, будзе актыўна дамагацца таго, каб прайсьці ў савет, к кіраўніцтву. Для гэтай мэты кулацтва поўнасьцю будзе выкарыстоўваць агульныя цяжкасьці, зьвязаныя з рэканструкцыяй народнай гаспадаркі, а таксама асобныя недахопы работы мясцовых савецкіх і іншых арганізацый, будзе вышукваць слабыя мейсцы арганізацыйнай падрыхтоўкі, каб зрываць справаздачныя і перавыбарчыя сходы. **Бедната і батрацтва, разам з серадняком, павінны быць гатовы, каб у такіх выпадках даць рашучы адпор кулацкім намерам і тым забясьпечыць дзелавое абмеркаваньне справаздач, нармальнае абгаварэньне кандыдатур і правядзеньне перавыбараў саветаў.**

Дабіцца поўнай палітычнай

№ 227 ад 2-X—1928 году) РВК і саветам пераглядзець схему выбарчых вучасткаў, у залежнасьці ад устаноўленых норм, а таксама ўлічыць гэтыя нормы пры падборы кандыдатур у склад саветаў.

Улічваючы тое, што вышэйпералічаныя мерапрыёмствы займаюць вельмі значную ўдзельную вагу ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце да перавыбараў саветаў, патрабуюць для свайго вырашэньня і практычнага ажыцьцяўленьня значны пэрыяд часу—як райвыканкомам, так і саветам належыць гэтыя мерапрыёмствы пачаць праводзіць у жыцьцё безадкладна.

Каб забясьпечыць пасьпяховае і своечасовае правядзеньне вызначаных мерапрыёмстваў і наладзіць разгортваньне ўсёй падрыхтоўчай да перавыбараў саветаў працы—райвыканкомам неабходна прымацаваць да саветаў прадстаўніка, на якога ўскласьці:

а) Найбольш поўна прапрацаваць і абмеркаваць на пашыраных пасяджэньнях саветаў усе дырэктыўныя матар'ялы аб арганізацыі і правядзеньні падрыхтоўчай работы да перавыбарчай кампаніі саветаў.

б) Правесьці работу па вывучэньню сучаснага складу саветаў і выяўленьню кандыдатур для вылучэнства.

в) Вытварыць усебаковую праверку работы саветаў ад папярэдняй перавыбарчай кампаніі да гэтага часу, з мэтаю выяўленьня, як выкананы саветамі наказы, пастановы зьездаў, дырэктывы вышэйшых кіруючых органаў.

г) Дапамагчы саветам у справе складаньня справаздачных матар'ялаў у сэнсе адбіцьця ў іх свае практычнае работы, праінструктаваць усіх сяброў саветаў і рэвізійных камісій аб зьмесьце іх справаздач.

Лукашэвіч.

# Арганізацыйна—масавая праца саветаў.

## Работа інструктароў саветаў.

На апошняй Сэсіі ЦВК БССР у дакладзе аб масавай рабоце саветаў і пры абгаварэньні гэтага дакладу, шмат увагі было зьвернута як дакладчыкам, так і членамі ЦВК, якія выступалі па гэтым дакладу, пытаньню правільнага і поўнага кіраўніцтва саветамі і выканкомамі з боку вышэй стаячых выканкомаў. Характэрна, што асабліва загастралі гэтае пытаньне работнікі нізавых саветаў—сельскіх і местачковых. Яны скардзіліся на адсутнасьць, галоўным чынам, жывога кіраўніцтва.

Гэта зусім зразумела, так як нізавыя саветы перш за ўсё адчуваюць на сваёй працы недахопы кіраўніцтва.

Сэсія ЦВК, улічваючы гэты момант, уключыла ў сваю пастанову па дакладу аб масавай рабоце саветаў спэцыяльны разьдзел аб кіраўніцтве і інструктаваньні. Ацэньваючы становішча гэтай работы выканкомаў III-я Сэсія адзначыла, што «да гэтага часу кіраўніцтва і інструктаваньне ў сваёй большасьці мела пісьмовы характар; інструктаваньне і дапамога ў рабоце саветаў ажыцьцяўляліся недастаткова».

Гэтая ацэнка інструктаваньня і кіраўніцтва, якую дала Сэсія, зьяўляецца зусім правільнай. Акрвыканкомы слаба ажыцьцяўляюць кіраўніцтва райвыканкомамі і гарадзкімі саветамі і зусім слаба сельскімі і местачковымі саветамі.

Калі кіраўніцтва і інструктаваньне ў БССР некалькі аблегчаны па лініі цэнтр-акруга з прычыны невялікай колькасьці акруговых адзінак, то кіраўніцтва па лініі акруга-раён і раён-сельсавет ускладняецца таму, што мы маем значную колькасьць раёнаў з вялікімі тэрыторыямі і насельніцтвам. Колькасьць сельсаветаў у раёне даходзіць да 20 і больш. Па колькасьці насяленьня і па сваёй тэрыторыі сельсаветы БССР зьяўляюцца аднымі з найбольш буйных ва ўсім Саюзе ССР.

Усё гэта значна ўскладняе справу кіраўніцтва і інструктаваньня нізавых саветаў.

Мэтады жывога кіраўніцтва саветамі ёсьць наступныя: нарады прадстаўнікоў месц, выезды ведамственных работнікаў на месцы, пленумы, заслухоўваньне дакладаў ніжэйстаячых саветаў і выканкомаў і г. д. Але са ўсіх мэтадаў жывога кіраўніцтва найбольш важным мэтадам, які дае максымальную карысьць, бязумоўна, зьяўляюцца выезды інструктароў вышэйстаячага выканкому на абсьледваньне і інструктаваньне ніжэйстаячага савету або выканкому. Інструктар, прапрацаваўшы больш-менш доўгі час на інструктарскай працы, набывае ў выніку абсьледваньняў вялізны вопыт і глыбокія веды работы саветаў, якія ён пераносіць на іншыя саветы і дапамагае ім, такім чынам, практычна ў іх працы. Апроч таго, інструктар зьяўляецца жывым зьвяном, якое зьвязвае вышэйстаячы выканком з ніжэйстаячымі саветамі і выканкомамі. І, урэшце, інструктар ажыцьцяўляе кантроль над выкананьнем і правядзеньнем у жыцьцё саветамі і выканкомамі дырэктыў і пастаноў вышэйшых органаў савецкае ўлады.

Ня гледзячы на тое, што роля інструктара ў справе паляпшаньня савецкае працы вельмі значна, яшчэ да гэтага часу правільнай арганізацыі інструктарскага апарату мала зьвярталася ўвагі.

Першае і галоўнае патрабаваньне, якое трэба прад'явіць да інструктароў—гэта адпаведная кваліфікацыя. Зусім ясна, што інструктар ва ўсялякім выпадку па сваёй кваліфікацыі ня можа быць ніжэй старшыні таго выканкому або савету, якія ён інструктуе. Такі мінімум яшчэ неабходзен і таму, што інструктар пры абсьледваньні і інструктаваньні прадстаўляе той выканком, які яго паслаў. Аднак, па пы-

таньню належнай кваліфікацыі сваіх інструктароў акрвыканкомы мала зрабілі і робяць. Галоўным злом у гэтай справе зьяўляецца цякучасьць інструктарскага складу. Каб даказаць гэта, даволі прывесьці той факт, што за 9 месяцаў 1927 году зьмянілася 73,7 проц. усяго інструктарскага складу БССР. Гэта значыць, што паказаны процант інструктароў знаходзіўся на сваёй працы менш году, а калі паглядзець па паасобныя акругі, то можна спаткаць яшчэ больш частыя зьмены. Так, напрыклад, у Менскім акрвыканкоме за час з 1-га студзеня 1927 г. па 1-е красавіка 1928 г. працавалі 9 інструктароў, і кожны з іх знаходзіўся на сваёй пасадзе ў сярэднім 6 месяцаў. Ёсьць і такія, якія працавалі ўсяго 1 месяц, 3-5 месяцаў. Аднолькавае зьявішча было адзначана абследваньнем і ў Магілеўскім Акрвыканкоме. Тут таксама былі такія інструктары, якія працавалі 2 месяцы, 5 месяцаў і г. д.

Такія нязначныя прабываньні на інструктарскай рабоце ператвараюць інструктарскі апарат у сапраўдны «проходной двор». Праўда, у гэтым напрамку ў апошні час ёсьць некаторыя «стабілізацыйныя тэндэнцыі», але значных вынікаў іх яшчэ мы ня маем.

Прэзыдыум ЦВК прызнаў мінімальным тэрмінам прабываньня на інструктарскай рабоце 1 год, гэты тэрмін ніяк нельга лічыць дастатковым і ён зьяўляецца толькі мяжой таго, што можна дапусьціць у асобна крайніх выпадках. Прымаючы пад увагу адсутнасьць адпаведных спэцыяльных курсаў і іншых відаў падрыхтоўкі гэтакага важнага апарату, кваліфікацыя інструктарскага складу можа быць падвышана, галоўным чынам, доўгай працай на гэтай пасадзе.

Бясспрэчна, што інструктар можа набываць і паглыбляць свае веды толькі тады, калі ён будзе займацца толькі выключна сваёй інструктарскай працай. Нагрузка інструктара дробнай канцэлярскай работай і скарыстоўваньне яго не па простаму прызначэньню павінны быць зьнішчаны; гэта паніжае каштоўнасьць інструктара, як гэтакага і ў значнай ступені зьнімае з яго пачуцьцё адказнасьці за даручаную яму работу; апошняя акалічнасьць у сваю чаргу ператварае інструктара ў чыноўніка, які выконвае вядомыя тэхнічныя абавязкі. З гэтае прычыны пытаньне аб разгрузцы інструктара ад работ, якія не ўваходзяць у кола яго прамых абавязкаў, павінна быць зараз-жа вырашана.

Для правільнай работы інструктарскага апарату, для якаснага палепшаньня яго складу і ўтварэньня спрыяючых умоў для іх работы, неабходна яшчэ наступнае:

Першае. Неабходна каб інструктары мелі практычны стаж у савецкай рабоце, г. з., каб яны гады 2-3 прапрацавалі ў савеце або выканкоме.

Другое. Трэба ўнесьці больш яскравасьці ў пытаньне аб кіраўніцтве інструктарскім апаратам і наогул аб кіраўніцтве арганізацыйна-масавай работай саветаў.

Трэцяе. Устанавіць абавязковы ўдзел інструктароў у рабоце пленумаў і прэзыдыумаў саветаў, выканкомаў, розных нарад з прадстаўнікамі месц.

Чацьвертае. Палепшыць матар'яльнае становішча інструктароў і тым самым утварыць стымул для замацаваньня на больш доўгі час інструктароў на іх рабоце. Інструктарам павінна быць забясьпечана стаўка адказнага палітычнага працаўніка. Прэзыдыум ЦВК гэтае пытаньне ў адносінах да інструктароў Арг. Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК ужо вырашыў.

Пятае. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на належны падбор інструктароў у тых райвыканкомах, дзе будзе гэтая пасада ўведзена. Сэсія ЦВК, улічваючы неабходнасьць палепшаньня кіраўніцтва сельскімі саветамі, зацьвердзіла пастанову Прэзыдыуму ЦВК аб уведзеньні пасады інструктара пры больш буйных райвыканкомах.

Гаворачы аб інструктарскім апараце, трэба адзначыць, што ў гэты апарат зусім ня ўцягнуты жанчыны. Гэтае зьявішча ёсьць значны прабел, які трэба ў бліжэйшым будучым запоўніць.

Цяпер некалькі слоў аб характары нашых абсьледваньняў. Інструктарскія абсьледваньні зьяўляюцца яшчэ нездавальняючымі. Звычайна бывае, так што па прыбыцьці на месца інструктар абмяжоўваецца наступным: выпісвае ўсе лічбы аб тэрыторыі, насельніцтве, колькасьці жывёлы, зямлі, колькасьці адбыўшыхся пасяджэньняў, вырашаных пытаньняў і г. д. Гэтыя абсьледваньні часта ўтвараюцца па шаблоннай праграме і зусім ня ўлічваюць асноўных пытаньняў сёньняшняга дню. Бывае і так, што ў праграмах абсьледваньня ўпушчаецца клясавы момант, дзякуючы чаму наогул трацяцца вынікі ўсяго абсьледваньня.

Падрыхтоўка да абсьледваньня не практыкуецца. З тае прычыны, што абсьледваньні ў сваёй большасьці робяцца ня ў плянавым парадку, то натуральна, што інструктар ня мае магчымасьці падрыхтавацца да іх, сабраць і прапрацаваць маючыяся матар'ялы ў адносінах абсьледваемага савету або выканкому. Такім чынам, інструктар, прыяджаючы ў раён альбо ў вёску, ня ведае з кім і з чым прыдзецца яму сустракацца пры абсьледваньні, на што яму трэба зьвярнуць большую ўвагу, якія даць паказаньні, у чым дапамагчы і г. д.

Абсьледваньне звычайна ўтвараецца без усялякага прыцягненьня да яго ня толькі мас (сэкцыі, камісіі, акты), але і мясцовых работнікаў савету альбо выканкому і адпаведных рэвізійных камісій.

Вынікі абсьледваньня ў сваю чаргу часта ўзгадняюцца апаратным парадкам, зноў-такі без удзелу мясцовага активу.

Інструктары Аргаддзелу Прэзыдыуму ЦВК зрабілі вопыт шырокага абгаварэньня вынікаў абсьледваньня з мясцовымі работнікамі, сэкцыямі, активам (Ворша, Плешчаніцы і інш.) і гэты вопыт даў бліскучыя вынікі як у сэнсе ўдзелу шырокіх мас у абгаварэньні недахопаў работы, так і ў сэнсе ўнясеньня шэрагу каштоўных прапаноў для зьнішчэньня гэтых недахопаў.

Тут трэба адзначыць, што інструктарскія абсьледваньні, утвараемыя акрвыканкомамі па сваёй падрыхтаванасьці, масавасьці адсталі ад абсьледваньня, якія ўтвараюцца партыйнымі органамі і РСІ. Пастаноўку абсьледваньня акрвыканкомаў неабходна палепшыць, а ўноў арганізуемую інструктарскую работу пры РВК адразу-ж паставіць на правільны шлях.

Інструктарскаму апарату трэба даць правільную ацэнку таму, што да гэтага часу гэтай ацэнкі з боку выканкомаў і саветаў яшчэ ня было. Неабходна ўтварыць працаздольны інструктарскі апарат, работа якога з удзелам шырокіх працоўных мас будзе накіравана ня толькі на абсьледваньне, рэвізаваньне, але і на кваліфікаваную дапамогу саветам і выканкомам. Бяз гэткага апарату правільна арганізаванага і ўзьвязанага па ўсёй савецкай сыстэме, нельга правільна і поўна праводзіць масавую работу саветаў.

**Файнбург.**

# Камісіі пры сельскіх саветах.

Яшчэ ў 1924 годзе савецкая ўлада адзначыла неналаджанасьць работы саветаў на мясцох, слабасьць іх і нават некаторую адарванасьць ад мас. Неабходнасьць узмацненьня саветаў, ажыўленьня і палепшаньня іх работы была пастаўлена ў парадак дню і ў выніку, па пастанове Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 19-XII-24 году, была ўтворана пры ЦВК Саюзу ССР спэцыяльная нарада па савецкаму будаўніцтву.

Асноўныя задачы, якія паўсталі перад нарадай, былі наступныя: глыбокае і ўсебаковае вывучэньне становішча саветаў на мясцох, галоўным чынам, нізавога апарату, пры максымальным удзеле прадстаўнікоў месц; распрацоўка канкрэтных мерапрыёмстваў па ўсіх галінах дзейнасьці саветаў, на падставе практычнага вопыту і агульных дырэктыў ўраду і партыі.

Нарада, у выніку вывучэньня на мясцох работы сельскіх саветаў, прызнала, што найлепшай формай прыцягненьня шырокіх слаёў насельніцтва, а роўна і грамадзкіх арганізацый да работы сельскага савету зьяўляецца ўтварэньне пры сельсаветах камісій (сэкцый) з членаў саветаў і прадстаўнікоў сельскіх грамадзкіх гаспадарчых і іншых арганізацый. Нарада пры гэтым зацьвердзіла ў красавіку 1925 году асобнае палажэньне аб камісіях. У першым артыкуле гэтага палажэньня былі выкладзены мэты ўтварэньня камісій: уцягненьне шырокіх мас сялян і сялянак, батракоў і батрачак і вясковай інтэлігенцыі ў практычную савецкую работу.

Пастанова Нарады адбілася ўжо ў палажэньні аб сельскіх саветах БССР, зацьверджаным 3-га ліпеня 1925 году. Артыкул 8 гэтага палажэньня гаворыць, што «сельскі савет прымае меры да залучэньня ўсіх працоўных насельнікаў у справу савецкага будаўніцтва праз адпаведныя камісіі, якія ўтвараюцца пры сельскіх саветах і дзейнічаюць на падставе асобных палажэньняў». Артыкул 32 устанаўляе, што «на членаў сельскага савету, апрача выпаўненьня пастаянных працы ў савеце, павінны ўскладацца абавязкі ўдзелу ў камісіях, якія ўтвараюцца сельскім саветам».

У адпаведнасьці з паказаным вышэй палажэньнем, якое прыняла Саюзная Нарада, і ў разьвіцьцё арт. 8 палажэньня аб сельскіх саветах БССР, які прадугледжвае асобнае палажэньне аб камісіях, ЦВК і СНК БССР 23 кастрычніка 1925 году зацьвердзілі «Палажэньне аб камісіях пры сельскіх саветах». Гэтае палажэньне прадугледжвае арганізацыю пры сельскіх саветах наступных 5 сталых камісій: сельска-гаспадарчай, культурна-асьветнай і санітарнай, фінансава-падатковай, мясцовае гаспадаркі і дабрабыту і гандлёва-кааперацыйнай. Апроч гэтых пяці сталых камісій палажэньне прадугледжвае яшчэ і часовыя камісіі для правядзеньня тых або іншых спэцыяльных даручэньняў і кампаній. Членамі камісій могуць быць, апроч членаў савету, наогул усе грамадзяне, якія, канечна, карыстаюцца выбарчымі правамі. Хоць апошняя акалічнасьць і не паказана ў палажэньні, але гэтаэ правіла само выцякае з тых мэт, у сілу якіх арганізаваны камісіі: уцягненьне шырокіх працоўных мас сялян і сялянак, батракоў і батрачак у практычную работу саветаў.

На чале камісій павінны стаяць члены сельсаветаў. Камісіі працуюць пад кіраўніцтвам Прэзыдыуму сельсавету, які разглядае і зацьвярджае ўсе пастановы камісій. Члены камісій абавязаны акуратна панаведваць усе пасяджэньні камісій. Справаздача аб рабоце камісій уносіцца ў агульную справаздачу сельскага савету. Вызначыўшы гэтыя агульныя правілы аб камісіях, Палажэньне вызначае правы і абавязкі кожнай камісіі ў паасобку.

Гэтае палажэньне, у выніку яго правядзеньня ў жыцьцё, павінна было ажывіць дзейнасьць сельскіх саветаў, сабраць навакол апошніх вясковы актыў, арганізаваць беднату, разгарнуць масавую работу, уцягнуць усё новыя і новыя сілы вёскі ў савецкае будаўніцтва.

Чым павінны зьяўляцца камісіі пры сельскіх саветах? Яны павінны зьяўляцца сродкам уцягненьня шырокіх працоўных мас у савецкае будаўніцтва, быць падрыхтоўчай школай палітычнага выхаваньня мас. Камісіі на практыцы, а не пры дапамозе кніжак, навучаюць шырокія масы працоўных дзяржаўнаму кіраўніцтву і выяўляюць сельскі актыў. Камісіі выяўляюць тых таварышоў, якіх потым можна будзе паступова высоўваць на адказную працу.

Посьпех работы камісій у значнай ступені залежыць ад наступных дзьвюх умоў: правільнага разьмеркаваньня па камісіях членаў саветаў і правільнага і сыстэматычнага кіраўніцтва работай камісій з боку саветаў. Савет павінен разьмеркаваць сваіх членаў па камісіях так, каб кожны член уваходзіў толькі ў тую камісію, работай якой ён цікавіцца і дзе ён можа праявіць сваё здольнасьці, прыстасаваць свой вопыт і свае веды.

Ёсьць выпадкі, калі склад камісіі зьяўляецца ўпаўне працаздольным, але ў той-ж час ён ня можа падыйсьці да працы, бо калі праца камісіі адрываецца ад работы саветаў, і камісіі дзейнічаюць самастойна.

Па гэтых меркаваньнях саветы павінны не прадастаўляць камісіі самім сабе, а бязупынна кіраваць іх дзейнасьцю. Саветы павінны паказваць камісіям як працаваць, на якія пытаньні звярачваць увагу, даручаць камісіям папярэднюю распрацоўку паасобных пытаньняў, ставіць на пасяджэньні савету прапрацаваныя камісіяй пытаньні. У апошнім выпадку камісіі павінны выступаць на пасяджэньнях саветаў садакладчыкамі па прапрацаваных імі пытаньнях.

Па добрай або дрэннай рабоце камісій можна беспамылкова судзіць аб добрай або дрэннай рабоце савету. Работу камісій нельга аддзяляць ад работы саветаў, так як па сутнасьці іх работа зьяўляецца работай саветаў.

Утвораныя да гэтага часу абсьледваньні дзейнасьці камісій пры сельскіх саветах пераконваюць у тым, што ў справе ажыўленьня нізавога савецкага апарату ужо маюцца значныя дасягненьні. Камісіі з кожным годам усё больш і больш уцягваюць сялянства ў савецкую работу. Камісіі займаюцца вырашэньнем бягучых спраў. Яны займаюцца практычным абслугоўваньнем штодзённых патрэб сялянства. З актаў абсьледваньняў відаць, што камісіі займаюцца праверкай працы пажарных дружын, разьмеркаваньнем лесу, папраўкай дарог і вуліц, пабудовай бань, праверкай правільнасьці абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам, санітарным абсьледваньнем прадпрыёмстваў і ўстаноў, работай кааператываў, дзіцячымі пляцоўкамі, насьценнымі газэтамі, распаўсюджаньнем друку і г. д. і г. д.

Нельга сказаць, што дзейнасьць 5 камісій можа ахапіць усё жыцьцё вёскі, або што пры рацыянальнай пастаноўцы работы камісій яны могуць аказацца „беспрацоўнымі“. Жыцьцё разьвіваецца, узьнікаюць у вёсцы новыя запытаньні як на культурным, гэтак і на гаспадарчым франтох. Правы сельскіх саветаў пашыраны. Усё гэта разам узятае зьяўляецца повадам і прычынай к узмацненьню дзейнасьці камісій. Ёсьць сельсаветы, якія не абмяжаваліся толькі 5 камісіямі, а ўтварылі, напрыклад, 7 камісій. І ўсё-ж такі, як гэта ні дзіўна, ёсьць тавары-

шы, якія, абагульваючы асобныя выпадкі дрэннай работы саветаў і камісій, прыходзяць к вываду, што ажывіць сельсаветы можна толькі шляхам скарачэньня ліку камісій.

Галасы за скарачэньне камісій пры сельсаветах раздаваліся і на III-й Сэсіі ЦВК БССР пры абмеркаваньні дакладу аб масавай рабоце саветаў. Добры адказ на гэтыя выступленьні ў сваім заключным слове даў т. Хацкевіч. Ён сказаў, што гэта ёсьць «стары мэтад ажыўленьня саветаў—скарапіць некалькі камісій пры сельсаветах. Гэта мера не пашырае, а звужвае магчымасьць скарыстаньня актыву. Трэба павялічыць актыў, а не абмяжоўваць колькасьць вельмі неабходных камісій. У нас ёсьць наступныя камісіі: сельска-гаспадарчая, культурна-асьветная і санітарная, фінансава падатковая, мясцовай гаспадаркі і дабрабыту (сюды ўваходзяць дарогі) і гандлёва-каапэрацыйная. Ніякую не скароціш, усе патрэбны, і задачы, уваходзячыя ў іх абавязкі, надзвычайна жыцьцёвыя».

Гаворачы ў сваім дакладзе аб камісіях і спыняючыся на гэтым-жа пытаньні, тав. Хацкевіч адзначыў, што «слабасьць працы камісій залежыць не ад гэтага, а ад слабага кіраўніцтва, ад таго, што праца сельсаветаў не правяраецца і не наладжваецца. У камісіях часта працуюць толькі члены сельскіх саветаў і амаль зусім не працуе і не ўцягваецца сельскі актыў, савецкія і грамадзкія працаўнікі, якія жывуць на вёсцы, і якія таксама павінны быць залучаны ў работу камісій і саветаў. І пагэтаму 5 камісій па важнейшых галінах будаўніцтва на вёсцы ўяўляюцца зусім не шматлікімі для сучаснага становішча сельсаветаў».

Пашырэньне правоў сельсаветаў выклікае пашырэньне кола спраў, якімі ведае і якія вырашае сельсавет. Гэта акалічнасьць не дазваляе нават ставіць пытаньне аб скарачэньні ліку камісій. Ёсьць яшчэ адзін довад у прыхільнікаў скарачэньня колькасьці камісій—малы лік членаў сельсавету, якіх не хапае на тое, каб разьмеркаваць паміж імі ўсе абавязкі, якія ўскладаюцца на членаў сельскіх саветаў.

Гэты довад зараз сам сабою адпадае. 1-га кастрычніка г. г. Прэзыдыум ЦВК БССР прыняў пастанову аб павялічэньні норм прадстаўніцтва ў сельсаветы і местачковыя саветы. Згодна гэтай пастановы член савету будзе цяпер абірацца ўжо не ад 200 чалавек насельніцтва, а толькі ад 100. Значыцца, колькасьць членаў саветаў павялічваецца роўна ў два разы.

Ёсьць толькі адна акалічнасьць, якая сапраўды некалькі перашкаджае масавай рабоце нізавых саветаў і затрымлівае яе. Гэтая акалічнасьць заключаецца ў тым, што сельскія саветы ў сучасны момант маюць вельмі нязначныя матар'яльныя магчымасьці для разгортваньня сваёй практычнай дзейнасьці ў галіне абслугоўваньня культурна-гаспадарчых патрэб вёскі, палепшаньня быту і ўпарадкаваньня вёскі. Гэта адбіваецца, безумоўна, і на рабоце камісій.

Пытаньне гэта было абгаворана Ш-й Сэсіяй ЦВК БССР, якая па ім прыняла наступную пастанову: «пацьвердзіць дырэктывы Ураду БССР аб павялічэньні ў 28-29 годзе колькасьці сельскіх саветаў з самастойнымі бюджэтамі, улічваючы тое, што існаваньне самастойных бюджэтаў дапамагае сельскім і местачковым саветам больш пасьпяхова вырашаць задачы гаспадарча-культурнага будаўніцтва і больш уцягвае ў работу саветаў і іх камісій батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы».

Трэба наогул адзначыць, што Ш-я Сэсія ЦВК БССР пытаньню аб камісіях пры сельскіх саветах як пры абгаварэньні дакладу аб масавай рабоце саветаў, так і ў пастанове па гэтым дакладзе ўдзяліла шмат увагі.

У пастанове Сэсіі адзначаецца, што «усё ўзрастаючая актыўнасьць рабочых батракоў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і мястэчка слаба скарыстоўваецца саветамі для разгортваньня масавай работы. З боку значнай часткі саветаў і выканкомаў няма належнай увагі асноўным формам масавай работы (камісіі, пленумы, прэзыдыумы, сходы, справаздачы)», што наглядаецца «амаль што поўная адсутнасьць папярэдняй прапрацоўкі практычных пытаньняў савецкага будаўніцтва ў камісіях, дзе павінны прымаць актыўны ўдзел усе члены саветаў і ўвесь вясковы актыў».

З гэтае прычыны Сэсія абавязала саветы, «каб усе важнейшыя гаспадарчыя і культурныя пытаньні разглядаліся з папярэдняй прапрацоўкай іх у камісіях» і каб «пасяджэньні асобных камісій таксама праводзіць у тых вёсках, да якіх датычыцца пытаньне, абгаварваемае камісіяй».

І, урэшце, Ш-я Сэсія пастанавіла ўстанавіць адказнасьць кіраўнікоў саветаў і выканаўчых камітэтаў за бязьдзейнасьць камісій.

На мясцох зараз ёсьць усе падставы для ажыўленьня дзейнасьці саветаў, уцягненьня ў іх работу праз камісіі працоўнага сялянства, батракоў і батрачак і розных працаўнікоў вёскі. Закон дае магчымасьць вёсцы актыўна ўдзельнічаць у вырашэньні ўсіх пытаньняў, якія яе датычацца. Закон таксама будзе караць тых кіраўнікоў саветаў, якія не скарыстоўваюць гэтай магчымасьці.

Задача ажыўленьня дзейнасьці саветаў наогул і нізавых саветаў—у прыватнасьці зноў пастаўлена ў парадак дню, але не ў кампанейскім парадку, а як дырэктыва, якая стала дзейнічае.

На падставе пастановы III-й Сэсіі ЦВК у бліжэйшы час будзе арганізаваны і праведзены конкурс на лепшую сэкцыю гарсавету і лепшы сельскі савет з яго камісіямі. Гэты конкурс мае сваёй мэтай прыцягненьне ўвагі насельніцтва да работы саветаў і скарыстаньне лепшай работы паасобных сэкцый і камісій другімі камісіямі і сэкцыямі.

Конкурс таксама мае сваёй мэтай навучыць працаваць тых, якія жадаюць, але не навучыліся яшчэ працаваць, уцягнуць масы працоўных у работу ня толькі камісій, але і саветаў, раскачаць і ўцягнуць новыя сілы рабочых і сялян у дзяржаўнае будаўніцтва.

Конкурс прымусіць падцягнуцца ў масавай рабоце тыя саветы і камісіі, якія ў гэтай рабоце адсталі.

У выніку ўсіх мерапрыёмстваў савецкай улады будуць заваёваны новыя кадры актыву, савецкая праца значна палепшыцца, недахопы, якія маюцца ў рабоце, будуць зьнішчаны і саветы яшчэ больш узмацняцца.

А. Пятосін

# Сельскія бюджэты.

Сучасныя ўзбуйненыя сельсаветы БССР па сваёй тэрыторыі і ліку насельніцтва падыходзяць да былых валасцей. Палажэньнем аб сельсаветах ім нададзены досыць значныя правы і накладаюцца вялікія абавязкі ў гаспадарча-культурным будаўніцтве. Значна пашыраецца актыўнасьць працоўных мас вёскі і іх зацікаўленасьць працай сельсаветаў. Аднак да гэтага часу с.-с. далёка яшчэ не выкарыстоўваюць нададзеныя ім правы, недастаткова ўцягваюць у працу саветаў сялянскі актыў і сельсаветы, часта ўяўляюцца яшчэ тэхнічнымі выпаўніцелямі загадаў і распараджэньняў вышэйшых устаноў, замест таго, каб стаць сапраўднымі гаспадарамі і арганізатарамі вёскі. Галоўнай прычынаю гэтага, безумоўна, у значнай ступені выяўляецца адсутнасьць у сельсаветаў матар'яльнай базы, інакш кажучы, сельбюджэтаў. Пытаньне аб сельскіх бюджэтах зараз пастаўлена ва ўсю шырыню па ўсім Савецкім Са-

ле, як важнейшы фактар ажыўленьня дзейнасьці нізавых саветаў. Па іншых саюзных і аўтаномных рэспубліках сельсаветы з самастойнымі бюджэтамі займаюць ужо значнае месца. Адбыўшаяся ў чэрвені месяцы г. г. нарада аргаддзелаў выканкомаў РСФСР выказалася за ўвядзеньне самастойных бюджэтаў ва ўсіх 100 проц. нізавых саветаў.

Між тым, БССР да гэтага часу мае ўсяго толькі каля 4,5 проц. сельскіх і местачковых саветаў з самастойнымі бюджэтамі.

Паказаныя ніжэй даныя гавораць за тое, што і гэта невялікая колькасьць сельскіх і местачковых бюджэтаў, якая маецца ў нас, існуе ў большасьці фармальна, што перашкаджае разьвязваньню тых задач, якія ставіць камуністычная партыя і савецкая ўлада, уводзячы гэтыя бюджэты. Напрыклад: Аргаддзелам ЦВК пры ўдзеле Паркамфіну БССР у пачатку бягучага году абсьледаваны і вывучаны па два сельскіх бюджэты ў трох акругах (Менскай, Бабруйскай і Магілеўскай). Матар'ялы гэтай работы сьведчаць, што хаця сельбюджэты і існуюць ужо другі год, аднак да гэтага часу не палучылі яшчэ належнага юрыдычнага і практычнага афармленьня.

Згодна існуючых законаў, сельсаветам для іх бюджэтаў могуць перадавацца наступныя даходы:

1) з падпарадкаваных сельсаветам маёмасьці, земляў, рыбнай лоўлі, перавозаў, ад мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы і г. д.;

2) ад пабочнага карыстаньня ў лясох агульна-дзяржаўнага значэньня;

3) ад падпарадкаваных сельсаветам прамысловых прадпрыемстваў, млыноў і іншых прадпрыемстваў, абслугоўваючых сельскую гаспадарку і перапрацоўваючых сельска-гаспадарчыя прадукты;

4) ад жыльлёвых і гандлёва-прамысловых памяшканьняў і месц для гандлю;

5) збор з драўніны;

6) адлічэньні ад сельска-гаспадарчага падатку і цэлы шэраг іншых даходаў мясцовага значэньня.

На справе-ж да гэтага часу райвыканкомы не замацавалі за сельсаветамі знаходзячуюся на іх тэрыторыі маемасьць. Сельсаветам перададзены ў бюджэты толькі прыбыткі ад маёмасьці і прадпрыёмстваў, а эксплёатацыяй апошніх займаюцца не сельсаветы, а райвыканкомы, дзякуючы чаму сельсаветы мала ўдзельнічаюць у наглядзе за маёмасьцю і не лічаць сябе яе гаспадарамі.

Такое становішча вельмі няспрыяюча адбіваецца і на самой маёмасьці, бо сельсаветы, як сказана вышэй, ня досыць унікаюць у гэтую справу, а райвыканкомы ня маюць магчымасьці прасачыць ні за выкананьнем арандатарамі ўмоў, ні за павялічэньнем даходнасьці з гэтае маёмасьці. Як прыклад, можна адзначыць нявыгадную здачу садоў райвыканкомам па Чарнаруцкаму сельсавету, Магілеўскай акругі.

Сельскі бюджэт набывае адпаведную вартасьць толькі тады, калі ў складаньні і абгаварэньні яго прымае ўдзел ня толькі ўвесь сельсавет у цэлым, а таксама шырокія масы сялянскага актыву, калі ён падвергаецца шырокай крытыцы і абгаварваецца на сельскіх сходах. Паміж тым, да гэтага часу сельскія бюджэты ў пераважнасьці складаюцца ў райвыканкомах і часам нават не абгаварваюцца ня толькі на пленумах, а і ў прэзыдыумах сельсаветаў.

На вялікі жаль сэкцыі сельсаветаў да гэтага часу ня ўдзялялі ніякай увагі бюджэтным пытаньням і зусім ня цікавіліся імі.

Спагнаньне і падлік сродкаў па сельскіх бюджэтах вытвараюцца таксама райвыканкомамі, і часта сельсаветы ня ведаюць, ці маюцца ў наяўнасьці сродкі для вытварэньня выдаткаў на тыя ці іншыя патрэбы, прадугледжаныя каштарысам. Пэрспэктыўныя пляны паступленьня прыбыткаў па каштарысу і вытварэньня выдаткаў па - квартальна складаюцца райвыканкомамі бяз удзелу сельсаветаў.

Такая пастаноўка сельскіх бюджэтаў, бязумоўна, ня можа спрыяць разьвіцьцю ў належнай меры дзейнасьці сельсаветаў, уцягненьню шырокіх пластоў сялянскага актыву ў гаспадарча-культурную работу саветаў і выяўленьню новых непадатковых прыбыткаў для павялічэньня бюджэтных сродкаў.

Нягледзячы на гэта, усё-такі трэба адзначыць, што ў тых сельсаветах, дзе маюцца бюджэты, работа пастаўлена значна лепей у параўнаньні з безбюджэтнымі і такія сельсаветы праяўляюць павышаную цікавасьць да гаспадарчага абслугоўваньня падпарадкаваных ім устаноў (школы, урачэбныя і фэльчарскія пункты і г. д.) і наогул праяўляюць больш гаспадарнасьці, зацікаўленасьці і ашчаднасьці.

Для таго, каб зрабіць рэальнымі сельбюджэты, райвыканкомам неабходна зараз-жа адпаведнымі пастановамі разьмежаваць і замацаваць за сельсаветамі прадпрыемствы і маёмасьць, што знаходзяцца па тэрыторыі сельсаветаў і прыбыткі ад якіх паступаюць у сельбюджэты.

Сельсаветы павінны праверыць гэтыя прадпрыёмствы і маёмасьць, высьветліць іх даходнасьць, намеціць спосабы эксплёатацыі і сачыць за тым, каб прадпрыёмствы і маёмасьць гаспадарча эксплёатаваліся, разьвіваліся, узмацняліся і рабіліся больш даходнымі.

Райвыканкомам трэба загадзя паведамляць у сельсаветы аб тых адлічэньнях і сумах, якія павінны быць уключаны ў сельбюджэты (с.-г. падатак, прыбытак ад лясоў), фонд рэгуляваньня і г. д.), каб пры складаньні бюджэтаў сельсаветы ведалі, на якія сумы яны могуць разьлічваць пры складаньні выдатковай часткі свайго каштарысу.

Пры складаньні выдатковай часткі свайго бюджэту сельсаветы павінны абмеркаваць, якія выдаткі патрэбна зрабіць у бягучым бюджэтным годзе, а якія могуць быць перанесены на будучы год, словам, старацца пабудаваць свой гаспадарчы плян так, каб на маючыяся паступіць прыбыткі найбольш рацыянальна пабудаваць выдатковую частку.

Для складаньня бюджэту неабходна ўцягнуць увесь склад сельсавету і сялянскі актыў праз адпаведныя сэкцыі пры сельсаветах, абмеркаваць пры іх удзеле вытворчыя пляны і намячаемыя мерапрыёмствы, складзеныя бюджэты абгаварыць на сельскіх сходах, уважліва прыслухоўваючыся к карысным заўвагам сялянства па тых ці іншых прыбытковых і выдатковых артыкулах. Толькі пры шырокім удзеле батрацкага, бядняцкага і серадняцкага актыву вёскі сельсаветы змогуць правільна пабудаваць свае бюджэты, згрупаваць і скарыстаць праяўляючуюся з боку працоўных мас актыўнасьць вакол гаспадарча-культурных пытаньняў на мясцох.

Акрвыканкомам належыць больш рашуча ўзяць кірунак на пашырэньне кола сельскіх і местачковых саветаў з самастойнымі бюджэтамі, арганізоўваючы іх у першую чаргу ў эканамічна найбольш моцных.

У працягу бягучага бюджэтнага году неабходна абхапіць каля 20 проц. нізавых саветаў самастойнымі бюджэтамі, імкнучыся ў далейшым да 100 проц. ахапленьня ўсіх саветаў. Адпаведная дырэктыва Прэзыдыума ЦВК БССР, пацьверджаная III верасьнёўскай сэсіяй ЦВК, дадзена; справа цяпер за выкананьнем на мясцох.

**А. Брушкоў.**

ікасны бок гэтай работы яшчэ надзвычайна слабы.

Асноўныя пытаньні, якія прапрацоўваюцца ў сэкцыях, зўляюцца плянавыя пытаньні Пленуму і Прэзыдыуму. Па прыкладу прэзыдыуму сэкцыі вызначаюць для прапрацоўкі пытаньні на тры месяцы, з такім разьлікам, што пленумы іх (сэкцый) павінны адбывацца два разы ў месяц; у сапраўднасьці яны праводзяцца ў сярэднім: адзін раз у месяц (каапэрацыйная, камунальная), тры разы ў два месяцы і ў тры месяцы раз. Значыць і выкананьне намечаных па пляну пытаньняў у найлепшым выпадку—50 проц., а то 30 проц. і нават 20 проц.

Яўка членаў на пленумы сэкцый найбольшая 69 проц. (фінансава-жэдж.), найменшая 33 проц. (камунальная). Але аб гэтых лічбах трэба сказаць, што яны ў поўнай меры не адлюстроўваюць работы данай сэкцыі, напрыклад: сэкцыя фінансава-бюджэтная па сваёй колькасьці зўляецца найменшай (15 чал.), працуе амаль што слабей усіх сэкцый; у 1927 г. і 1928 г. яна правяла толькі па тры пленумы (абсьледчай работай не займалася), а ца проценту наведваньня працуе як-бы і добра.

Больш-менш здавальняючай работай можна лічыць работу сэкцыі аховы здароўя: яна больш за ўсе іншыя сэкцыі правяла абсьледваньні ўстаноў аховы здароўя (у 1927 г.—13, у 1928 г.—5); большую колькасьць сваіх пленарных пасяджэньняў сэкцыя праводзіла ва ўстановах, на прадпрыемствах і рабочых клюбах. На працягу 1927 г. гэтая сэкцыя прыцягнула на свае пленумы 213 чал. рабочых і актыву служачых.

Добрыя прыклады абсьледчай работы дае сэкцыя рабоча-сялянскай інспэкцыі. Бяда толькі ў тым, што яна (сэкцыя) не згуртавала вакол сябе членаў гарадзкога савету і рабочых з прадпрыемстваў.

Значным недахопам у сэкцыйнай рабоце зўляецца адсутнасьць узгодненасьці паміж сэкцыямі, напрыклад: даклад ЦРК заслухоўваецца паасобна на сэкцыі каапэрацыйнай і рабоча-сялянскай інспэкцыі. Такое становішча, бязумоўна, выклікае лішнюю цеганіну кіраўнікоў устаноў і членаў сэкцый.

У сэкцыях камунальнай і аховы здароўя абсьледчая работа амаль што напалову даручаецца адным і тым-жа асобам.

У сэкцыйнай рабоце яшчэ слаба разгорнута крытыка і самакрытыка, аб гэтым сьведчыць наступны факт з работы сэкцыі аховы здароўя: па дакладу больніцы «імя Семашка» дэпутатка Лапацэнкава ўказвала на недарэчнасьці, якія яна прыкмячала асабіста ў час свайго лячэньня ў гэтай больніцы. Замест таго, каб усё, што гаварыла Лапацэнкава, высьветліць, некаторыя члены сэкцыі пратэставалі супроць такога выступленьня: «з такімі заявамі на Пленуме сэкцыі выступаць няможна».

Прымацаваньне асобных членаў сэкцый да прадпрыемстваў і ўстаноў большасьцю сэкцый зроблена фармальна. Ніякага кіраўніцтва прымацаванымі на працягу ўсяго часу з боку бюро ня было. Таксама не практыкавалася ў рабоце сэкцый інструктаваньне камісій, якія вылучаліся для абсьледваньня, а адгэтуль якасьць абсьледавацельскай работы, за выключэньнем сэкцыі РСІ, надзвычайна слаба.

## Справаздачнасьць Гарсавету.

Азнаямленьне выбаршчыкаў з важнейшымі мерапрыемствамі гарадзкога савету праводзілася праз пленумы савету і пленумы сэкцый, якія адбываліся заўсёды пры ўдзеле рабочых і актыву выбаршчыкаў. Справаздачнасьць дэпутатаў і прэзыдыуму перад выбаршчыкамі на працягу 1927 г. і 1928 году ня мела належнай рэгулярнасьці: у 1927 г. кастрычнік-сьнежань справаздача была зроблена 28 дэпутатамі на 18 сходах, на якіх удзельнічала 1377 выбаршчыкаў альбо 12 проц.; а ў 1928 г. справаздача рабілася Прэзыдыумам Гарсавету на 10 сходах; дэпутаты аб сваёй асабістай рабоце на гэтых сходах выступалі як садакладчыкі.

Больш актыўна справаздачнасьць праводзілася ў 1928 г. На асобных сходах у спрэчках па справаздачах выступала 10—14 чалавек (чыгуначнікі). Пастановы ўсіх сходаў адзначаюць выкананьне гарадзкім саветам наказу выбаршчыкаў і даюць шэраг прапаноў для паляпшэньня агульнай работы Гарадзкога Савету.

## Работа прэзыдыуму.

Пасяджэньні Прэзыдыуму Гарадзкога Савету зўляюцца ў значнай ступені масавымі.

Як правіла, на кожным пасяджэньні Прэзыдыуму, асабліва ў 1928 г., прысутнічалі прадстаўнікі сэкцый, жанчыны дэлегаткі і прадстаўнікі ўстаноў. Колькасьць удзельнікаў на прэзыдыуме ў сярэднім разам з членамі Прэзыдыуму—16 чалавек. Работа Прэзыдыуму праводзіцца па пляну, які складаецца заўсёды на тры месяцы. Выкананьне пляну ў дачыненьні вызначаных пытаньняў у сярэднім 72 проц., прычым плянавыя пытаньні Прэзыдыуму папярэдне прапрацоўваліся па сэкцыях—у 1927 г.—63 проц., а ў 1928 г.—35 проц.

Кіраўніцтву работай сэкцый за ўвесь час прэзыдыум надаваў досыць увагі: у 1927 г. былі заслуханы даклады ўсіх сэкцый, а ў 1928 г. работа сэкцый была абсьледавана адказным сакратаром гарадзкога савету.

## Бюджэт Гарадзкога Савету.

Пытаньні бюджэтнага характару да 1928 году не зўляліся стрыжнем, вакол якога павінна больш усяго разгортвацца масавая работа Савету. Фінансава-бюджэтная сэкцыя бюджэтныя пытаньні прапрацоўвала фармальна.

На 1927-28 год бюджэт гарадзкога Савету быў складзен Акруговым Фінансавым Аддзелам, сэкцыі ніякага удзелу ў абмеркаваньні бюджэту ня прымалі. Прэзыдыум Акрвыканкому ў пастанове, якой фактычна бюджэт зацьвярджаўся, даў даручэньне гарсавету: «шырока абгаварыць бюджэт па сэкцыях». Цікавы прыклад абгаварэньня бюджэту пасьля адзначанай прапановы знаходзім у матар'ялах сэкцыі аховы здароўя. Яна перш за ўсё падыходзячы да гэтага пытаньня прымае прапанову „з прычыну таго, што бюджэт зацьверджан, і ніякіх зьмен унесьці ўжо нельга,—ад абгаварэньня адмовіцца“, а потым выносіць пастанову: «бюджэт адобрыць».

Фактычную самастойнасьць па бюджэтных пытаньнях гарадзкі савет палучыў толькі ў лютым 1928 г. Недахопам гэтай самастойнасьці пакуль што зўляецца тое, што маёмасьць гарадзкога савету яшчэ канчаткова ня выдзелена.

Удзельная вага гарадзкога бюджэту ў агульна-акруговым складае ў 1927-28 годзе 15,9 проц., а ў 1928-29 г.— 13,8 проц.

Памяншэньне ўдзельнай вагі на 2,1 проц. тлумачыцца: памяншэньнем абектаў абкладаньня, асабліва па прыватным гандлю, нерэальнасьцю прыбытковых вылічэньняў пры складаньні бюджэту ў 1927-28 г. і адсутнасьцю поўнага вучоту камунальнай маёмасьці.

**Лаўрыновіч.**

# Прапановы месц аб палепшаньні працы саветаў.

## Што неабходна для палепшаньня працы сельсаветаў.

Азнаёміўшыся ў № першым „Саветаў Беларусі“ з артыкулам тав. Хацкевіча аб масавай рабоце саветаў, я жадаю падзяліцца і сваімі заўвагамі на падставе чатырохгадовага вопыту маёй працы ў сельсавеце, каб усё, што ў іх ёсьць карыснага і новага, было скарыстана і праведзена ў жыцьцё.

Гаворачы аб палепшаньні працы нізавых саветаў, трэба памятаць, што гэта іхняя праца праведзіцца яшчэ зараз у нездавальняючых умовах. Нагружанасьць грамадзкай працай наогул і ў паасобку, неабходнасьць на працягу большай часткі году хадзіць па вёсках за спагнаньнем падатку, страхавых плацяжоў і інш. вымушае працаўнікоў сельсавету пакідаць канцалярыю і адрывацца ад бягучай работы. Таму і цяжка весьці вучот працы, наладзіць арганізацыйна-масавую работу сельсавету, нельга сакратару паставіць канцалярыю на належную вышыню. Каб гэты недахоп зьнішчыць у канцалярыі сельсавету павінен заўсёды знаходзіцца тэхнічны працаўнік.

Вельмі адбіваецца на якасьці штодзённай працы сельсаветаў тое, што да гэтага часу сябры савету ў большасьці зусім мала дапамагалі ў працы, якая амаль што цалкам лажылася на пастаянных платных работнікаў. Неабходна, каб работа сельсавету праводзілася ўсімі яго членамі.

Важнае значэньне мае падбор належных працаўнікоў сельсавету, у паасобку ў склад яго прэзыдыуму, і кантакт у рабоце з іншымі вясковымі арганізацыямі.

Мне здаецца, калі намесьнікам старшыні сельсавету будзе старшыня КСТУ, будзе належная ўвязка ў працы двох гэтых, важных для сялянства, устаноў, пры прыняцьці шэрагу мерапрыёмстваў.

Галоўнае, што неабходна з боку РВК—гэта даць кіраўніцтва—жывое і сыстэматычнае, загадзя вывучаючы ўмовы данага сельсавету.

Сустракаюцца ў цяперашняй працы розныя хібы, сумненьні і г. д.; РВК трэба своечасова на ўсё гэта рэагаваць. Трэба, акрамя гэтага, памойму, практыкаваць падраёныя нарады працаўнікоў сельсаветаў загадзя падрыхтаваўшыся, трэба дзяліцца вопытам працы, не дапускаць, каб кожны сельсавет быў толькі ў сваім коле ведаў.

Камісіі пры сельсаветах ня ўсе даюць належную карысьць, з іх самыя галоўныя, якія зьяўляюцца ў вёсцы жыцьцёвымі—сельска-гаспадарчыя і культ.-асьветная. Астатнія, па маёй думцы, не ўпаўне мэтазгодны. На працу гэтых камісій трэба зьвярнуць галоўную ўвагу, даць сельсаветам належныя дасканальныя дырэктывы, каб іх ажывіць—трэба даць сельсаветам магчымасьць правесьці ў жыцьцё пашырэньне іх правоў, якія памогуць ім па адміністрацыйнай лініі ўзмацніць сваю працу і аўтарытэт. Трэба даць належную магчымасьць с.-сав. кіраваць установамі на сваёй тэрыторыі, бо часта гэтакія абмяжоўваюцца фармальнымі, сухімі дакладамі, а пастановы с.-саветаў па іх дакладах не праводзяцца імі ў жыцьцё.

Партыйным ячэйкам па вёсцы, дзе яны маюцца, трэба належным парадкам дапамагаць сельсавету ў яго працы, не абмяжоўваючыся толькі фармальнымі дырэктывамі.

Райвыканкомам перад праведзеньнем розных кампаній азнаёміцца з сіламі і сельсавету і варункамі яго працы і своечасова даваць належную дапамогу.

Нарэшце, я хачу застанавіцца на тым, што слабая матар'яльная забясьпечанасьць працаўнікоў сельсавету таксама дрэнна адбіваецца на агульнай працы.

Пэнсіі працаўнік сельсавету атрымоўвае 26 р. у м-ц, з якіх 3 р. трацiцца на паездкі ў РВК (пленумы, нарады і г. д.). У большасьці работнік с.-сав. адрываецца ад сваёй гаспадаркі (бо гэтага патрабуе праца) і ня можа пражыць за 26 руб. у месяц. Праўда, мы працуем ня толькі за грошы, але і па сваёй сьвядомасьці адчуваючы адказнасьць за пабудову новага жыцьця наогул, але на матар'яльнае становішча нізавых працаўнікоў трэба зьвярнуць больш увагі, хаця наш бюджэт вельмі напружаны.

Трэба таксама скараціць усялякія вызавы працаўнікоў сельсаветаў у РВК па дробных пытаньнях, што цягне за сабой лішнія выдаткі.

Сакратар с.-сав.
СЯРЭБРАНЫ Б. М.

## Некаторыя заўвагі аб працы Заслаўскага местсавету.

Будучы ў Заслаўскім раёне, мне давялося азнаёміцца з працай Заслаўскага мястэчковага савету. Шмат яшчэ хібаў маецца ў гэтай працы.

Напрыклад, 26 траўня г.г. на агульным сходзе грамадзян пасёлка Гуры, Заслаўскага м.-савету, па самаабкладаньню, які праводзіў сакратар РВК тав. Ягоўдзік і старшыня с.-с. Дашчынскі, у пратаколе не запісана якая пераважная большасьць за самаабкладаньне, як неабходная падстава для выкананьня пастановы.

Пратаколы агульнага сходу грамадзян не разглядаюцца на пасяджэньні прэзыдыуму савету.

Камісіі пры савеце не працуюць, імі ня робіцца нічога для ўцягненьня іх членаў у актыўную працу, напрыклад, ня ставілася справаздача камісій і сяброў с.-савету на прэзыдыуме, пленуме і на агульным сходзе іх выбаршчыкаў аб праведзімай імі працы. Не вядзецца вучот актыву пры савеце.

Не вядзецца ўходзячай кнігі аб паступленьні заяў з боку сялянства і аб тэрміне іх выкананьня.

Зусім адсутнічаюць як плян, так і каляндарны расклад працы савету.

Гэта сьведчыць аб незацікаўленасьці РВК працай местсавету. На глядзячы на тое, што Заслаўскі м-савет знаходзіцца ў 40 сажнях ад РВК, ён да сучаснага моманту ня меў належнага кіраўніцтва і ні ім, ні райвыканкомам ня прыняты меры для зьнішчэньня пералічаных недахопаў.

Пашук.

# Як палепшыць працу сельсаветаў.

## У працы сельсаветаў павінна быць сталае інструктаваньне.

Бяз сталага інструктаваньня немагчыма чакаць добрай працы нашых сельсаветаў; райвыканкомам пры рэвізіі, абсьледваньнях працы сельсаветаў немагчыма дакладна, ясправа ле абгледзець, праінструктаваць і даць напрамак у далейшым, бо на гэта трэба шмат часу.

Калі-б быў асобны інструктар пры райвыканкомах, дык ён-бы прыехаў у савет, прагледзеў яго працу, потым магчыма было-б склікаць куставы сход некалькіх саветаў і тут магчыма было-б абмеркаваць памылкі і даць практычныя заўвагі на далейшы час. Хоць мы і мелі-б па бюджэту кожнага раёну на 600 руб. больш выдаткаў на аплату інструктара, але-ж на мясцох мелі-б моцныя саветы і зьнішчылі-б хібы ў працы.

## Аб нарадах.

Пры сельсаветах абавязкова павінны быць нарады, дзе магчыма абмеркаваць рознага роду пытаньні пры шырокім удзеле актыву і сялянскіх мас, а ў нас амаль што сельсаветы гэтага ня робяць. Трэба, каб пры складаньні плянаў пасяджэньня прэзыдыуму і пленуму абавязкова ўключаліся і нарады, бо на прэзыдыумах і пленумах разглядаюцца і разьвязваюцца буйныя пытаньні, а інструктыўнага характару там няма.

## Вясковыя сходы.

Агульныя вясковыя сходы ў нас часта робяцца выпадкова, а трэба зрабіць так, каб іх прадугледзець хоць на квартал. Гэта-б унесла адполькавую сыстэму ў правядзеньне нашых агульных сходаў.

## Камісіі.

**Яны ў сучасны момант амаль што не працуюць—іх трэба рэарганізаваць. Напрыклад: функцыі камунальнай камісіі перадаць прэзыдыуму сельсавету, а каапэрацыйнай—культасьветнай камісіі, і такім чынам мы будзем мець дзьве камісіі—культасьветную і сельска-гаспадарчую.** Патрэбна, каб гэтыя камісіі рабілі свае справаздачы на прэзыдыумах РВК раўналежна з прэзыдыумамі сельсаветаў, што, бязумоўна, складзе грамадзкую думку аб іх у бок паляпшэньня працы.

## Бядняцкія, батрацкія сходы і ўцягненьне жанчын у саветы.

З бядняцкімі і батрацкімі сходамі справа абстаіць ня зусім добра, бо яны, напрыклад, за мінулы год праводзіліся толькі два разы—пры самаабкладаньні і пры вучоце аб'ектаў абкладаньня. Але-ж іх магчыма праводзіць часьцей, таксама ўключыўшы іх у пляны працы.

Што датычыцца ўцягненьня жанчын у працу саветаў, дык яны часта зусім ня ведаюць, што робіцца ў сельсавеце. Гэта таму, што сельсаветы робяць свае справаздачы толькі пры перавыбарах саветаў, а калі-б яны рабілі справаздачы хоць-бы ў чатыры месяцы раз у кожнай вёсцы паасобку, тады-б усе ведалі, у тым ліку і жанчыны, што робіцца ў іх савеце. У іх зьяўлялася-б цікавасьць да працы.

У надыходзячую перавыбарчую кампанію трэба паставіць пытаньне так, каб больш жанчын уцягнуць сябрамі сельсаветаў.

Пажадана, каб райвыканкомы ў абавязковым парадку высылалі сваіх прадстаўнікоў на пасяджэньні пленумаў сельсаветаў. Гэта-б аблегчыла разьвязаньне некаторых пытаньняў і РВК больш-бы быў знаём з пастаноўкай працы на месцы. Таксама пажадана, каб РВК рабіў пасяджэньні прэзыдыумаў і пленумаў на вёсцы шляхам выезду.

Ст. Лужанкоў.

---

# Больш увагі местачковым нацыянальным саветам.

Ня глядзячы на доўгі час існаваньня нацсаветаў на тэрыторыі БССР, да гэтага часу вышэйшыя органы ўлады недастаткова зьвярнулі ўвагі на працу апошніх. Асаблівасьці і зруйнаванасьць эканомікі яўрэйскага местачковага насельніцтва, значная частка якога доўгі час прымушана была займацца гандлем і цяпер хоча і павінна заняцца карыснай прадукцыйнай працай, накладае на нацсаветы абавязак дапамагаць гэтаму насельніцтву перайсьці на новае жыцьцё і вышукаць формы гэтага пераходу. У гэтым напрамку працаўнікі нацсаветаў павінны быць у курсе тых мерапрыёмстваў, якія ўладай вызначаны і ажыцьцяўляюцца ў гэтай галіне; напрыклад, арганізацыя вытворчых арцеляў і г. д. Шмат таксама ёсьць у мястэчку дэклясіраванага маладняка, які ня мае дзе кваліфікавацца. Усё гэтае патрабуе тлумачэньня і інструктаваньня вышэйшых органаў, як практычна вырашыць тое ці іншае пытаньне. Апрача таго шмат яшчэ ёсьць пытаньняў, якія патрабуюць свайго вырашэньня і ажыцьцяўленьня ў сувязі з рэарганізацыяй і спрашчэньнем савецкага апарату; напрыклад, **перадача местсаветам спраў ад камунальных сталоў РВК, спраў па выдачы пасьведчаньняў асоб гр-нам і інш.**

Трэба дапамагчы местсаветам у правядзеньні нацпалітыкі, як практычна падыйсьці ў сэнсе абслугоўваньня насельніцтва з тым, каб у працы ня было шавіністычнага ўхілу і каб інтарэсы нацменшасьцяй ня былі закрануты.

Для палепшаньня працы і пераводу справаводзтва цалкам на нацыянальную мову, **трэба, каб трафарэты і блянкі па выдачы розных даведак і пасьведчаньняў меліся надрукаванымі. Таксама Нацыянальная Камісія ЦВК павінна паклапаціцца аб тым, каб усе загады і распараджэньні ўлады БССР друкаваліся на нацыянальных мовах.**

**Трэба таксама больш забясьпечыць матар'яльнае становішча сталых працаўнікоў сельсаветаў, якія ня маюць сваёй гаспадаркі і жывуць выключна ад пэнсіі.**

**Сакратар Дрысенскага Местсавету ДРЫЗІН.**

1-я друкарня „БДВ“. Галоўлітбел № 302.